Год III. Травень № 5 (28)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.







ВІЛЬНЯ, 1931 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

*Просім пашыраць «Шлях Моладзі» і прысылаць падпіску (грошы)!*


# „Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год III. | Вільня, Травень 1931 г. | № 5 (28). |
|---|---|---|


## Да ўзгадаваньня моладзі!

Гэтакі кліч сягоньня чуем з вуснаў усіх цывілізаваных народаў. І нічога дзіўнага, што ўсе народы імкнуцца да добрага ўзгадаваньня моладзі, бо-ж моладзь — будучына народу. Гэта кадры кожнага народу, якія займуць месца старэйшага пакаленьня, уступаючага з сваіх становішчаў з чыста натуральных прычынаў, як старэньне і ўміраньне. Агульна ёсьць ведамы прынцып, што ад добра ўзгадаванай моладзі залежыць добрая будучына кожнага народу. Добрахарактарная і належна ўзгадаваная моладзь вяшчуе пэўны і цьвёрды фундамант пад лепшую будучыну народу.

Разумеючы патрэбу добра ўзгадаванага маладога пакаленьня і яго ў будучыне важную ролю, кожны народ стараецца ўзгадовываць сваю моладзь як мага, вырабляючы ў ёй добры характар і сільную волю. Спосабы ўзгадаваньня бываюць рожныя, але мэта ўзгадаваньня адна: іменна — дабро народу. Кожны народ мае свае спосабы ўзгадаваньня, але агульнае імкненьне да выніку такое: узгадаваньне добрахарактарнага чалавека — грамадзяніна. Аднак ня ўсе належна асягаюць мэту ўзгадаваньня, бо пры гэтым часам не стае аднаго можа найважнейшага дзейніка ўзгадаваўчага — рэлігіі.

Калі даўней ня было школаў, а ўзгадовывалася моладзь дома—пры бацьках, або апякунах, то бацькі, апякуны ўзгадовывалі дзіцё сваім прымітыўным спосабам.

Мэта такога ўзгадаваньня была такая: каб дзіцё было добрае да бацькоў і агулам да людзей. А падставай і „падручнікам“ бацькаўскай „пэдагогікі“ было: баязьнь Бога і вынікаючая з яе баязьнь бацькі. І вось гэтая Божая баязьнь сьцерагла дзіцё ад благога ўчынку, паволі прывівалася ў характары дзіцяці і пасьля засталася назаўсёды ў чалавеку. А калі-б бараніць дзіця ад зла толькі бацькаўскай карай, то даросшы—гэтае дзіцё ужо не баялася-б бацькі, бо сільнае само, а нават за папярэднія кары імсьцілася-б на бацьках.

Дык вось бачым, якую важную ролю ў пэдагогіцы і агулам у ўзгадаваньні адыгрывае рэлігія. Роля рэлігіі важнейшая за ўсе іншыя пэдагогічныя дзейнікі, бо яна толькі здольна ўзгадаваць добрахарактарнага чалавека.

Не рабіць зла, г. зн. быць добрым, а быць добрым да

бліжняга—зн. любіць бліжняга. Вось рэлігія хрысьціянская іменна і кладзець у аснову ўзгадаваньня людзкасьці — любоў свайго бліжняга.

Цяпер кінем вокам на новы спосаб узгадаваньня грамадзянства, які мае месца ў СССР. Бачым там вялікае зьдзічэньне маладога пакаленьня. Ня трэба быць ворагам бальшавізму, каб гэты факт сьцьвердзіць, адно толькі трэба крытычным вокам паглядзець, а ўсё будзе ясна. А прычына гэтага крыецца іменна ў адсутнасьці мінімальных рэлігійна-маральных падставаў узгадаваньня. Барацьба з рэлігіяй і глумленьне ўсяго, што ёсьць вышэйнае над матэрыю ў чалавеку, — робіць яго не чалавекам, а зьвяром разумным, які ёсьць больш небясьпечны ад зьвяра неразумнага.

Адсутнасьць духа і вышэйшай мэты ў жыцьці чалавека — робіць яго блудзячым на бездарожжы, які мусіць зґінуць сярод цемры, калі ня выб'ецца на шлях праўдзівы.

Мэтай узгадаваньня чалавека — гэта ўсьцеражэньне яго ад благіх навыкаў, навучэньне яго знайсьці мэту ў жыцьці, да якой ён павінен упорыста імкнуцца. Чалавека бязмэтнага можна прыраўнаваць да шчэпіны на моры, якую хвалі ўзбуранага мора кідаюць ува ўсе бакі.

Калі-ж ёсьць мэта і калі ўступе чалавек на правільны шлях, то трэба яму быць вытрывалым у сваіх імкненьнях. І вось вытрываласьці і гарту духа мусіць навучыць добрае ўзгадаваньне. Калі мэта добра ўсьвядомленая і станецца яна для чалавека сьвятой, то вытрываласьць у імкненьні да яе заўсёды будзе. Мэта заўсёды мусіць быць пранікнута вышэйшым ідэалам, а безхарактарнасьць і агулам сапсутасьць у такім выпадку будзе пераможана.

Напрыклад — мэтай нашай моладзі ёсьць служэньне Бацькаўшчыне. І калі мы будзем вернымі і любячымі сынамі свайго народу, то яго ніколі ня здрадзім. З любові бацькаўшчыны, калі яна сапраўды будзе безгранічная, вынікне самаахвярнасьць моладзі, гатовай нават пасьвяціць сваё ўласнае жыцьцё. І такім чынам мэта стане ў найвышэйшым сваім пункце і тады яна будзе пранікнута сьветлым ідэалам.

Але ўзгадаваньне моладзі толькі ў духу патрыотызму было-б вузкое і слабое.

Побач з патрыятызмам трэба разьвіваць у маладых сэрцах пачуцьці рэлігійна-маральныя, якія кладуць у аснову характару вечна здаровыя і жыцьцятворчыя элемэнты. Пачуцьці гэтыя зьяўляюцца для чалавека той сілай дынамічнай, якая крыша фундаманты сапсуцьця маральнага ніzасьці чалавека, а ўздымае яго духова і фізычна вышэй.

А дзеля гэтага, калі бяромся да вялікай справы, як будаваньне Бацькаўшчыны, то мусім самі быць вялікія і моцныя духам, воляй і характарам.

Мы, беларуская моладзь, якая кінута лёсам праз цэ-

лыя вякі на ласку і няласку чужых „пэдагогаў“, якія ня толькі гадуюць, але дэмаралізуюць — калечаць нас дзеля сваіх мэтаў, мусім нарэшце самі сябе ўзгадовываць, а ўзгадовываць на дзьвюх моцных падставах, г. зн. на падставах пачуцьця хрысьціянскай этыкі і пачуцьця патрыятызму. Тады-ж, калі збудуем сябе — нашы характары, — то ня цяжка будзе асягнуць нашу мэту: збудаваць і ўмацніць нашу Бацькаўшчыну — Беларусь.

Дык да працы, маладая гвардыя, над узгадаваньнем характараў, бо гэтага вымагае ад нас **Беларусь!...**

**Марвіч.**

# Матура.

Канчаецца школьны год і моладзь найвышэйшых клясаў сярэдніх школ (гімназіяў і інш.) прыступае да зьбіраньня пладоў свае працы за цэлы рад гадоў, прыступае да экзамінаў на атэстат сьпеласьці, інакш званы матурай. Гэты мамэнт у жыцьці, як самой моладзі, так і цэлага грамадзянства, так важны, што варта застанавіцца тут над ім хоць у пару словах.

Мінае школьны год і моладзь безпасярэдна ў матуры зацікаўленая сьніць ужо аб „канцы ўсякіх трапункаў,“ а грамадзянства... падглядае і рахуе магчымасьці ўспамогі ў працы. Жыцьцё аднак не даецца падрахаваць і пажаданьні гэтыя ня збываюцца ў 100 прац. ані ў адных, ані ў другіх: моладзі — замест аднэй „бяды“ нарастаюць цэлыя хмары іх, а грамадзянства? — як-жа малую дагэтуль мае ўспамогу! Першаму „пажаданьню“ ня збыцца ніколі, а дзеля зьдзейсьненьня другога трэба дапоўніць сучасную сярэднюю школу больш грунтоўнымі элемэнтамі ўзгадаваньня. Бо аднаго толькі „навучаньня“ станоўча за мала. Сягоньняшняй моладзі ў большасьці выпадкаў не хапае зразуменьня забавязанасьці перад грамадзянствам, не хапае „грамадзкай агляды“. Вялікі затое надбытак паваеннага „рэформацыйнага“ балясту. Што часьцей можна сягоньня ў моладзі сустрэць, як ігнаранцыю агульна прынятых нормаў культурнага жыцьця, як „прызваньне“ „рэформаваць“ усіх і ўсё, як поўнае адданьне сваім вуска-асабістым справам з тым мамэнтам, як пакідаецца школьная лаўка і залежнасьць ад грамадзкай ахвярнасьці і г. д.

На ўсё гэта трэба зьвярнуць увагу пры канцы школьнага году, як узгадаваўцаў, так і ўзгадаваных. Для гэтых апошніх меў бы тут аднак яшчэ пару ўвагаў.

Рой думак спавівае галаву матурыста пакідаючага сярэднешкольную лаўку. Душа рвецца ўвысь, хацелася-б аб-

няць усё жыцьцё, усё пазнаць, усё ведаць. І тут якраз ляжыць зародак першага разчараваньня: жыцьцё так кароткае і вымагае аддацца аднэй толькі галіне веды. Адну толькі пуціну можна выбраць, а рэшта — насіць у сабе замкнёным, як скрыты жаль. Шчасьлівы, хто пры выбары трапіць на свой шлях адразу! Такіх аднак ня шмат і на хвілёвую памылку трэба быць прыгатаваным.

Знайсьці свой шлях ня кожнаму лёгка ўдаецца. З другога боку аднак кожны матурыст мусіў бы ведаць, што кожны шлях, асабліва-ж шлях беларускі, — вельмі цьвёрды і калючы. Быць беларускім інтэлігентам— гэта далёка ня значыць „мець лёгкі кавалак хлеба“. Ой цяжкі і горкі гэты „хлеб“, натуральна, для інтэлігента незалежнага ад уплываў розных чужых „дабрадзеяў!“ Хто іншага лёсу на беларускім полі спадзяецца, лепш-бы зрабіў, каб на гэта поле сусём ня выходзіў.

Куды ж тады пойдзе беларускі матурыст?

Хто мае нейкія магчымасьці вучыцца далей, хай там ідзе, а аб выбары найлепш зробіць, калі распытаецца ў малодшых і старшых сваіх таварышаў на адпаведных аддзелах. Кожны шлях мае сваё „але“ і гэтага пужацца нечага. Спэцыялісты-ж нам патрэбны ў кожнай галіне.

Пры канцы скромная зацемка: усё студыяваць трэба з пункту гледжаньня інтарэсаў беларускай духовай і матэр'яльнай культуры. Ніхто нам гэтага не зрабіў і ня зробіць. Тут наша месца.

А хто далей ня зможа вучыцца ў школе, хай вучыцца ў жыцьці. Розьніцы між намі быць ня можа. Кожны на сваім месцы і для супольнай справы — беларускай!

**Інж. Ад. Клімовіч,**
матурыст Віл. бел. гімназіі 1921 г.

# Крыху з нашай гісторыі.

## Тварэньне беларускіх княстваў, іх грамадзкі лад.

Як сказана ў папярэднім нумары „Шл.М.,“ у другой палове IX ст. сярод усходніх Славянаў пачынаецца дзяржаўна-грамадзкая арганізацыя. Побач з іншымі плямёнамі арганізаваліся і беларускія плямёны (Крывічоў, Дрыгавічоў, і Радзімічаў); яны ідуць тым-жа гістарычным шляхам, якім ішлі іншыя плямёны усходніх славянаў, г. зн. будуюць свае княствы, свае дзяржавы. Яшчэ да прыходу варажскіх князёў, аб якіх гаварылася ў папярэдніх нумарох „Ш. М.,“ пачалі на абшарах беларускіх плямёнаў складацца валасьці, ці інакш — княствы. Вёскі валасьцяў цягнулі, як да

цэнтру, да бліжэйшага гораду. Чым большы і багацейшы быў горад, тым большую тэрыторыю вясковую канцэнтраваў каля сябе. Воласьці былі ў гэныя часы разнастойныя па вялічыні сваіх абшараў: адны былі большыя, а другія меншыя. Найвялікшымі з іх лічыліся: Полацкая, Смаленская і Тураўская. Апрача гэтых цэнтраў, якія маюць сваю даволі багатую гісторыю, існавалі яшчэ менш значныя, аб якіх успамінаецца ў летапісях, напрыклад: Віцебская, Аршанская, Друцкая, Мсьціслаўская, Узяслаўская, Слуцкая, Наваградзкая, Нясьвіская, Менская, Пінская, Мазырская, Сьвіслацкая і іншыя; гэтыя воласьці — княствы былі меншыя сваімі тэрыторыямі ад тых вышэй успомненых большых трох княстваў. Тварэньне ўсіх воласьцяў было выклікана патрэбай арганізацыі дзеля самаабароны ад наезьнікаў — чужынцаў.

На чале кожнай воласьці — княства для спраў вайсковых быў вызначаны асобны князь, які быў роданачальнікам, а часам толькі прадстаўніком племя або роду.

І князі—роданачальнікі былі мясцовымі людзьмі. Князі — прадстаўнікі былі наплывовым чужым элемэнтам. Як пападаў прышлы элемэнт у мясцовае жыцьцё, мы бачым прыклады ў летапісным паданьні аб закліканьні князёў — варажскіх („Придите и княжите нами...“).

Уласныя князі мелі выканаўчую ўладу ў сваім княстве: яны баранілі тэрыторыю воласьці і яе маемасьць, рабілі са сваей дружынай паходы ў чужыя землі, судзілі, пільнавалі гандлёвыя шляхі і караваны і інш.

Заканадаўчая ўлада ў воласьці належыла да веча, або да народнага сходу. Веча зьбіралася ў найгалаўнейшым горадзе воласьці — княстве. Веча запрашала князя, угаварывалася з ім; калі князь нарушаў пастаўленыя яму ўмовы, яно адбірала ад яго княжаскую ўладу. Веча выдавала ўсялякія пастановы для насельнікаў воласьці, выбірала ўрадоўцаў на патрэбныя пасады і мела права таксама адабраць тую пасаду. Веча абвяшчала войны і рабіла згоду з суседзямі. Улада веча пашырана была ня толькі на горад, але і на ўсю воласьць, якая цэнтравалася каля гораду. Меншыя гарады княства лічыліся прыгарадамі галоўнага вялікага гораду. Веча ў горадзе мела магутную сілу. Кожны жыхар воласьці павінен быў слухаць яго голасу, у тым ліку і князь.

Звычай вечавога народапраўства існаваў, як у Кіеўшчыне, так і ў Полаччыне з даўных часоў. Як рабіліся справы на вечах, мы мала ведаем, бо ад вечавых сходаў не асталося да нашага часу аніякіх пісаных дакумантаў. Па тых невялікіх вестках, якія маем аб вечавых сходах, можна судзіць, што жыхароў воласьці на сход склікаў вечавы звон, каторы вісеў на плошчы найгалаўнейшага го-

раду княства. На гукі гэтага звону з усіх канцоў гораду выходзіліся мяшчане і вяскоўцы, якія ў гэты час былі ў горадзе па сваіх справах. Права голасу на сходзе мелі ўсе свабодныя дарослыя людзі, незалежныя гаспадары. Сабраным людзям апавяшчалася тая справа, якую веча павінна разглядзіць і вынесьці адпаведныя пастановы. Справу апавяшчаў сабраным князь, або ўрадовец якінебудзь, або проста стары чалавек, які быў прысутны на вечы. На пытаньні веча адказывала прамоўцу гоманам. Праціўных галасоў ня бралі пад увагу, пастановы праходзілі большасьцю галасоў. Калі часамі меншасьць не хацела адступіць ад сваей прапановы, то большасьць перацягівала на свой бок іх бойкай, або проста затыкала ім рот кулаком і галасоў меншасьці ня было чутна.

Наймагутнейшым было веча ў Полацку. Тут яно існавала з няпамятных часоў аж да канца XV ст. (1498 г.), калі Полацку было нададзена Магдэбурскае права. Князь у Полацку юрыдычна ня меў амаль што ніякай сілы. Важнасьць і сіла залежыла ад яго індывідуальных здольнасьцяў. Сам князь і яго дружына нават ня жылі ў самым горадзе, а ў некалькіх вярстах ад гораду, у вёсцы Бельчыцах, дзе былі пабудаваныя палацы. Князі іншых усходніх славянскіх княстваў паходзілі з больш сільных і выдатных родаў і дзеля гэтага, калі былі яны пакрыўджаны вечам, дык звычайна маглі знайсьці дапамогу ў сваіх родзічаў. А што тычыццa полацкіх князёў, то яны не маглі нікому паскардзіцца на сваю крыўду. Жылі яны асобным ад кіеўскіх князёў жыцьцём і нават найчасьцей былі ў спрэчках з імі. Часам страціўшы свой пасад з якой небудзь прычыны, князь уцякаў у чужую старонку. Такой староной звычайна была Літва.

Полацак быў найгалаўнейшым горадам княства, усе іншыя гарады былі залежныя ад Полацку. Да Полацку належылі: Менск, Віцебск, Барысаў, Стрэжаў, Усьвят, Друцк і інш. Гэтая залежнасьць была толькі ў вонкавых справах, у справах хатніх усе прыгарады былі незалежнымі, якія мелі свае вечы і сваіх князёў. М. Пяцюкевіч.

---

# Літэратурны аддзел.

## ПАВУК І МЫШ.

Мышка пад снапком сядзела
І на жнеяк ўсё глядзела.
Ось гультай! — сказаў павук, —
З чужой працы жывець рук. —
Кінь, казнодзей ты лахматы,
Мне навукі гаварыць,
Паглядзі, як пан пузаты
Вун на жнеяк ўсьцяж глядзіць.
Так яму лепш гавары, —
Мышка скрылася ў нары.

**Я. Быліна.**

## ВЯСНА.

Надышоў такі час,
Калі ў кожнага з нас
Сэрца моцна і радасна б'ецца,
Бо з палёў і лясоў
Да нас ў вёску ізноў
Птушак гоман вясёлы нясецца;
Ён нясецца да нас,
Ў такі радасны час,
Як маёвыя дні залатыя.
Цёпла, люба ўвакруг,
Зьяе краскамі луг —
Эх, вясёлыя дні маладыя!

**С. Лісьцік.**

## ВЯСНА.

Ізноў да нас прышла вясна,
Як пілігрым із падарожжа,
І ўсе палі, лугі яна
Прыбрала зелянью прыгожа.

З прыходам сьветлае вясны
Ўсе дрэвы вопраткі надзелі,
І ўсе надзеі, мары—сны
У маей душы памаладзелі.

І быццам цяжкая жуда
Мне сэрца мучыць перастала,
Здаецца проч пашла бяда
І жыцьцё мілей і лепш мне стала.

**КоКо.**

## ПЕСЬНЯ ЖЫДОЎ У ВАВІЛОНСКАЙ НЯВОЛІ.

На Вавілонскіх раках
Сьлёзы мы там пралівалі,
Плакалі мы і ў сьлязах
Там наш Сіон спаміналі.
Божа! — Маліліся мы —
Дай народу волю, —выбаў нас з турмы!
На Вавілонскіх ракак
Ў цяжкай чужацкай няволі
Ў нашых няшчасных душах
Полымя бухала волі.
Божа! і т. д.
На Вавілонскіх раках
Песень мы родных ня чулі
Путы на нашых руках
Ў сэрцах нам голас закулі.
Божа! і т. д.
На Вавілонскіх раках
Маткі ня зналі мы лона,
Плакалі мы і ў сьлязах
Рваліся адно да Сіона.
Божа! — Маліліся мы —
Дай народу волю,—выбаў нас з турмы!

**Уладзімер Бернякові́ч.**

## ЦЯГНІКІ.

Рэйкі — жылы.
Крывёй чорнай заплылі.
Паміж поля, як гадзюкі,папаўзьлі у даль.
Перапеўна — пудка сталь
Разьзьвінелася ў начную ціш...
Не шасьцяць — замоўклі — каласы.
Зорамі усыпаная выш...
Толькі з цемры,
Нібы з неба проста ўніз,
Мчацца, мчацца...
Вогненныя цягнікі.
Я, заслуханы у дальні бег,
Замёр сярод жытоў...
Ці ісьці далей, ці ня ісьці?
Цягнікі нясуцца зноў і зноў,
Выпушчаюць пудкіх ластавак у поле.—
Места — шум...
Нібы стрэлачнік, начую ў полі я...
А ў вачох, іскрыста, поўнае вагня,
Сьніцца места, сьніцца места мне...

**Хв. Ільляшэвіч.**

## РАНІЦАЙ.

Лёгкім туманам зямля скрозь пакрыта,
Рэчкі чарот павуціньнем спавіты,
Гэй, што у дзень так жыцьцёвасьцю дыша,
Ціха стаіць—вецер дрэў не калыша;
Толькі зязюля бяз шуму — галасу
„Ку-ку“ працягне ад часу да часу,
Рэха ціхое памалу падхопіць,
У рэку нясе, дзе адразу і топіць...
Шчэбет птушок тагды звонка пальлецца,
Як ў дзенную хварбу ўжо сьвет убярэцца.

В. Шкодзіч.

## ХМЕЛІК.

Хмелік, хмелік дзе ты рос,
Дзе ты завіваўся? —
Каля рэчкі, ля бяроз
Укруг я аплятаўся.

Дзе ты, хлопча, прападаў,
Дзе ты прабадзяўся? —
З сваёй мілай я гукаў,
У зоркі углядаўся.

Чаму, хмелік, над ракой
Расьцеш у даліне?
Лепей віўся-б пад страхой
У маей дзяўчыны.

Не хадзі ты пад раку
Ды з сваей адзінай.
У яе-б сядзеў садку
Пад яе хацінай.

Не пасьмелі-бы тады
Людзі наракаці,
Не стагнала-б ад бяды
У ночы мая маці.

Не стаяла-б дзірваном
Зямлі дзесянціна,
Не хадзіла-бы з судзьём
Да ракі дзяўчына.

Чаму, хмелік, над ракой
Расьцеш у даліне?
Лепей віўся-б пад страхой
У маей дзяўчыны.

Б. Кляпацкі.

# З мінулых дзён.

(Успаміны). 1)

I.

У 1915 годзе, пад канец лета, з кожным днём усё больш і больш праяжджалі праз нашу вёску расейскія казакі і цэлымі ротамі жаўнеры, якія часта застанаўляліся ў нас для адпачынку і раскладалі свае лагеры па хатах, гародах, садох. Быў я яшчэ зусім тады малы, не разумеў, што такое вайна і часта ў бацькі пытаўся: — тата, чаго гэтыя жаўнеры па нашай вёсцы лазяць? Ад бацькі можна было пачуць толькі адно слова: „вайна“ і на гэтым канчалася наша гутарка; больш ня прыходзілася ў бацькі пытаць, бо ён і так выглядаў нейкі пабялеўшы, быццам чагосьці перапуджаны; вочы павялічыліся і твар упаў ягоны...

Дзень за днём хутка праходзілі, што-раз усё страшней і страшней рабілася на сьвеце... З кожным днём вецер сільнейшы павяваў з заходу, неба пакрывалася чорнымі хмарамі, якія паволі пасоўваліся на ўсход. Уся прырода пачала заміраць: перасталі птушкі пяяць, конікі рзаць, камары і авадні зьвінеці, скаціна ў полі рыкаць і песні людзкія так-жа заціхлі, занямелі.

Што-раз часьцей і часьцей былі чутны гукі стрэлу з гарматаў, або з кулямётаў. Народ кідаўся з кута ў кут, сам ня ведаў, ці ўцякаць куды, ці заставацца на сваёй роднай зямельцы.

Сумны час! Ад усяго адпалі рукі, ніхто не хацеў брацца за работу, бо і сам ня ведаў, хто будзе ею карыстаць. У нас якраз у гэты год надта ўрадзіў лён — аж усе вясковцы завідавалі маей матцы, але маці казала, што першы раз на сваім жыцьці нарвала толькі харошага лёну і што, здаецца, ня прыдзецца ім карыстацца. І сапраўды — казакі здраталі яго коньмі ў гародзе, гдзе быў пастаўлены сохнуць.

Аднаго разу казакі, якія стаялі ў лесе, схітравалі — яны ўзарвалі адзін знарад, каб троха пастрашыць вяскоўцаў; пасьля гэтага сільнага гуку ўся вёска, як мага скарэй, пазапрагала коні, папакладала на воз самыя важнейшыя рэчы і — пачала ўцякаць, а куды, дык і самі ня ведалі. Праехаліся мо' якіх пяць-шэсьць вёрст ў двор Біляны і там чакалі вечара. Пад вечар некулькі чалавек было выслана на разьветку ў сваю вёску.

Вярнуўшыся з вёскі, мужчыны расказалі, што ўсе куры, качкі, гусі, сьвіньні казакі пазабіралі і цяпер пякуць у лесе і сьмяюцца з нас, што мы такія дурныя. Даведаўшыся аб гэтым, сяляне скарэй узяліся запрагаць коні і ехаць дамоў.

Уехаўшы ў лес, яны ўвідзелі агні, каля якіх сядзелі жаўнеры і елі гарачую курыніну, а ў нашых бедных „бежанцаў“ толькі сьлінка цякла па губе — гледзячы на іх.

Пасьля павароту ў вёску, на другі дзень вечарам, у нашу хату найшло поўна жаўнераў. Маці заразжа падпаліла ў печы, каб згатаваць якую колечы бульбіну на вячэру. Жаўнеры прынясьлі поўнае рэшата круп і папрасілі маці згатаваць для іх добрую кашу; маці споўніла іхную просьбу.

Ціхая ночка.. Панурая ночка.. неба асьветлена такім страшным чырвоным полымем, як быццам і яно занялося агнём. Навокал вёскі было ціха; успакоіліся стрэлы, крыкі жаўнераў і людзей — спалі ўсе, як забітыя, пасьля вандровак і перапуджаньняў. Паглядзеўшы далей у бок лесу, можна было пабачыць пылаючы агонь і вялікімі клубамі ўзносячыйся ўверх дым — гарэлі розныя забудовы, масты на чыгунцы, станцыі, сёлы; гэта было падпалена рускімі войскамі, якія нічога не хацелі пакінуць цэлым для ворагаў сваіх.

У гэту ночку бацьку ня прышлося ані на хвіліну задрамаць: мусіў увесь час пілнаваць скаціны і збожжа ад жаўнераў; маці, палажыўшыся на пяколак, можа якую гадзінку і паспала, але дзе там той сон пойдзе, калі думкі страшныя рояцца ў галаве, на ўспамін аб страшэнных разрухах, што сьвет увесь займаецца агнём і з кожным днём паяўляюцца новыя магільнікі са сьвежанькімі насыпамі жоўценькага пясочку і крыжамі з просьценькіх кругляччкоў бярозы ці так якога дрэва!

Ночка хутка прайшла. Абудзіўшыся на раніцы, я ўбачыў, што нікога ня было ў хаце: ні жаўнераў ні бацькі з маткаю Зьлезшы з печы, пайшоў я шукаць бацькоў сваіх; доўга лазіў усюды і нігдзе ня мог знайсьці іх. Сеў я на прызьбе пад хатаю і з жалю пачаў горка плакаць, — аж раптам пачуўся маці голас:

— Ты ўжо ўстаў?

Я з радасьці аж падскочыў; лягчэй мне стала на душы і ў вачох пасьвятлела, як пабачыў сваю дарагую матульку.

Маці ўзяла мяне за руку, павяла ў хату, дала есьці, а сама йзноў пашла да працы. Пасьля сьняданьня, памагаў я бацькам насіць рознае лахмоцьце на будову акопу для „схову ад сьмерці.“

Каля паўдня сонейка выглянула на зямельку і пачало сваімі касулькамі агравацъ людцаў; весялей і лягчэй зрабілася на сэрцы. Хмарка за хмаркамі плылі чарадою — мо‘ і яны шукалі старонкі, супакою і справядлівасьці? Пакуль мы знасілі рэчы ў вакоп, дык сонейка зусім нізенька спусьцілася і пачало хавацца за хмаркі. Настаў вечар.

Гэты астагні вечар перад прыходам немцаў быў най-страшнейшы з усіх: усё навокал было ахоплена агнём.

Пазьбіраўшыхся ў вакоп было ўсіх каля дваццаці асоб — і старых і малых. Кожны сядзеў у страху, як мыш пад мятлою, і ня мог высунуць галавы і паглядзець на сьвет Божы... Жанчыны, павыцягаваўшы з-запазухі ружанцы, пачалі ціха маліцца, а мужчыны таксама пад нос сабе нешта шапталі. Раптам на вярху акопу забрахаў наш чорнені сабачка, каторы сьцярог людцаў ад ворагаў. Усе ўсьцішыліся і пачалі слухаць, што будзе далей; сабачка ўвесь час не пераставаў брахаць; было ясна, што нехта тут ёсьць прышоўшы — ці рускі, ці немец. Аж раптоўна ўсунулася ў вакоп галава немца і пачуўся крык:

— Матка, хлэба—масла, хлэба масла,—матка, хлэба масла!

Усе пачалі дарыць нова-прышоўшых гасьцей — хлебам і салам, бо масла ня было ў тую хвіліну цяжкую. І так бадай цэлы дзень прыходзілі да нашага акопу немцы, просячы хлеба і масла.

У гэтую-ж самую ночку згарэла ад знараду наша вёска, немцы цэлымі днямі ехалі і ехалі з-захаду на ўсход.

**Янка Ваўштолскі.**

---

**Вольная Трыбуна.**

# Адказы і ўвагі на пытаньне: Якімі літарамі маемо друкаваць „Шл. Моладзі."

*Зьмяшчаючы адказы і ўвагі ў справе так важнага пытаньня, якімі літарамі маемо друкаваць „Шлях Моладзі," паважаным аўтарам даем поўную свабоду выказываць іх думкі* РЭДАКЦЫЯ.

19.

Маім пажаданьнем было-б, каб „Ш. М." быў друкаваны і лацінкай і гражданкай, гэта знача адзін номер лацінкай, а другі гражданкай, затым, што нашае сучаснае жыцьцё гэтага вымагае. Сучасная моладзь наша больш азнаёмлена з лацінкай, а ня знаючы кірыліцы, застаецца адсунутай ад адзінай часопісі беларускай для яе, як „Шлях Моладзі," каторы дзеля гэтага і мала ёсьць распаўсюджаны між маладняком. А калі-б „Ш. М." друкаваўся лацінкай і гражданкай, быў-бы праз гэта даступным для больш ці менш несьвядомага маладняка і мог-бы прычыніцца да яго ку-

турна-духовага разьвіцьця. І лацінкавая моладзь, пазнаўшыся раз з „Ш. М.,“ прымушана будзе пазнаць і гражданку, што зьяўляецца неабходным для кожнага праўдзівага і сьвядомага Беларуса.

Калі возьмем пад увагу, што гражданка мае за сабой вялікую беларускую прошласьць, дык ясна, што мы не яе павінны забываць, а мусім яе пазнаваць.

Кс. Др. К. К—к у сваім доказе палітычнага характару, выключаючы гражданку за тое, што быццам яна зблізіае нас да Маскоўцаў, што зьяўляецца шкодным для адраджэньня беларускага народу, — вельмі памыляецца, запамінаючы, што ня толькі супольная абэцэда, але нават мова ня можа цалком зблізіць народаў; за прыклад хай паслужа Францыя і Бэльгія, Англія і Амэрыка, каторыя маюць супольную мову. Беларусь-жа ёсьць аддзелена мовай ад Расеі і апроч абэцэды больш нічога ня мае супольнага з ею.

„Шл. Моладзі“ абавязкава павінен друкавацца і лацінкай і гражданкай, бо адны знаюць тое, а другія тое, тым больш, што і лацінка і гражданка павінны мець у беларускай літэратуры поўнае права.

**Ліда Атрахімовіч**, 16 гадоў,
праваслаўная. Жалюбчыкі з Парпліпічыны.

20.

Будучыня бязумоўна належыць да лацінкі, якая становіцца міжнародным шрыфтам усяго культурнага сьвету, але прыймаючы пад увагу, што: 1) гістарычна-традыцыйным шрыфтам у беларусаў ёсьць кірыліца, праз якую толькі і можам пазнаць і дасьледзіць сваю мінуўшчыну, 2) вялічэзная большасьць беларускай моладзі (пераважна старэйшай) знае кірыліцу і карыстаецца ею ў унутраным жыцьці, 3) усе нашыя друкі часоў Адраджэньня ў 80 працэнтах выканаваны кірыліцай, 4) усе кніжкі вышаўшыя за межамі Зах. Беларусі (у Б. С. Р. Р., Латвіі, Літве) у апошнім дзесяцігодзьдзі — амаль выдучна друкаваныя кірыліцай, 5) кірыліца — адзін з паважных дзейнікаў у змаганьні з палянізацыяй — трэба і надалей „Шл. Моладзі“ друкаваць кірыліцаю, не адкідаючы і лацінкі, якою трэба карыстацца ў менш важных справах, у артыкулах, ськіраваных перадусім да моладзі каталіцкае і наймалодшых чытачоў, якія змушаны вучыцца ў чужых польскіх школах. Карэспандэнцыі-ж можна друкаваць той абэцэдаю, якую ўжывае аўтар. Цяпер адна засьцярога: увесь матэр'ял, празначаны для друку лацінкай, належыць друкаваць выключна беларускай зрэфармаванай лацінкай, ужываючы нятолькі значкоў „ŭ,“ „š“ і „č,“ але і „v“ замест польскага „w,“ ужываньне якога ў беларускіх друках абсалютна нічым не апраўдваецца. Ч. Х.

# Лісты.

## НЯСЬВЕДАМАСЬЦЬ.

**в. Макаўляне,** Сакольскага пав. Моладзі ў нас вельмі многа, найгорш толькі, што яна нясьведамая і ня можа адрожніць рэлігіі ад нацыянальнасьці. У нас яно так: як хто каталік—то паляк, а як праваслаўны—то расеяц, не зважаючы на тое, што ён радзіўся і жыве на Бэларусі і што бацькі яго таксама з дзеда і прадзеда жылі тут і карыстаюцца ўсе выключна мовай беларускай.

Так яно не павінна быць! Трэба нарэшце зразумець, што каталіцтва—гэта адна рэч, а польскасьць—другая, а праваслаўе — гэта такжа не маскоўшчына, бо можна быць палякам па нацыянальнасьці, а праваслаўным па рэлігіі, так як можна быць расейцам, маскалём па нацыянальнасьці, а каталіком па рэлігіі. Беларусы па рэлігіі ёсьць і каталікі і праваслаўныя.

Кожны чалавек, які з даўных часоў жыве на абшары беларускіх зямель (у які ўлічаецца і наша Сакольшчына), гавора мовай беларускай, мае звычаі беларускія, — ці ён будзе каталік, ці праваслаўны, павінен сябе называць беларусам, бо ён такі ёсьць і нават ганьбай ёсьць, калі ён да свае беларускае нацыянальнасьці не прызнаецца.

Пара гэта зразумець; узяць да сэрца, нашай моладзі!

Макаўлянец.

## АДРАДЖЭНЬНЕ.

**Клочкава,** Беніцкай вол., Маладэчанскага пав. На шпальтах „Ш. М." некалі пісалася аб маралі тутэйшай моладзі, а нават і старэйшых, аб тых азартнасьцях (бойка, карцёжніцтва, п'янства і іншыя), якімі былі перапоўнены тутэйшыя хаты і г. д. Сягодня мы бачым (пасьля таго, як у „Ш. М." аб гэным было надрукавана) значнае аздараўленьне ня толькі сярод моладзі, але і старэйшых. Хоць праўда, палепшаньне наступіла яшчэ неаканчальна, але гэтага трэба спадзявацца ў бліжэйшым часе. Моладзь замест пярэдніх азартнасьцяў зьвярнулася да здаровай часткі, да культурных асьветных працаўнікоў з просьбай завесьці з імі сталы кантакт, памагчы наладзіць спэктаклі, зрабіць адчыт-лекцыі і г. д.

Такому аздараўленьню могуць толькі памагчы свае беларускія культурна-прасьветныя працаўнікі, робячы культурна-прасьветную і ўсьведамляючую работу, а ня чужынцы, палянізатары.

Такое раптовае аздараўленьне ня ёсьць першым ані апошнім, а таксама і нятолькі тут у нас, а і ўдругіх кутох Зах. Беларусі. Чэсьць і слава Вам, браты Клочкоўцы!

**Той самы.**

# Хроніка

### З беларускага жыцьця.

**Суд над рэдактарам і выдаўцом „Шляху Моладзі.“** 20 траўня ў Віленскім Акружным Судзе разглядалася справа рэдактара М. Пяцюкевіча і выдаўца „Шл. Моладзі“ Я. Багдановіча, абвінавачаных па 129 і 51 арт. к. к. за зьмяшчэньне у № 4 за 1930 г. „Шляху Моладзі“ вершу „Устань, Беларусь.“ Суд, распазнаўшы справу, абвінавачаных апраўдаў.

„Шлях Моладзі“ апроч гэтага быў яшчэ два разы канфіскаваны. У 1929 г. № 8 за зьмяшчэньне артыкулу „Крыху аб сучаснасьці“ і вершу „Падымайся народ“ і ў 1930 г. № 11 за зьмяшчэньне вестак з камэнтарыямі з украінскага жыцьця аб разьвязаньні „Пласта“ і аб падзеях у Зах. Украіне. Справа канфіскаты № 8 за 1929 г. разглядалася ў Судзе 11.V. 30 г; абвінавачаных рэдактара і выдаўца „Шл. М.“ суд апраўдаў. У справе канфіскаты № 11 „Шл. М.“ рэдактар атрымаў паведамленьне ад пракурора, што „доходзэне карнэ“ у гэтай справе „уможонэ.“

Як бачымо, усе тры канфіскаты „Шляху Моладзі“ Віленскае Гарадзкое Староства зрабіла зусім безпадстаўна.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт.** 16 траўня с. г. адбыўся першы, пасьля абнаўленьня прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і інстытуцыяў, агульны сход, у часе якога адбыліся перавыбары прэзыдыюму Нац. К-ту. Новы Прэзыдыюм Нац. К-ту складаецца з наступных асоб: Я. Пазьняк—старшыня, В. Багдановіч і Ф. Ярэміч віцэ-старшыні, сэкрэтар—інж. А. Клімовіч, скарбнік — В. Рагуля, якога заступае П. Каруза, бо цяпер В. Рагуля сядзіць у вастрозе на Лукішках.

**Звольнены з вастрогу** нядаўна адвакат Стэцкевіч, старшыня Т-ва Бел. Школы, а так-жа і працаўнікі Т-ва Бел. Школы: др. Марцінчык і Шырма.

**Юр'е.** 9-га траўня Віл. Аддзел Бел. Інстытуту Г. і К. ладзіў вечар-сьвяткаваньне Юр'я, у часе якога студ. М. Пяцюкевіч прачытаў рэфэрат аб народных беларускіх сьвятах вясной, а так-жа пяяў хор. 10-га траўня была наладжана Аддзелам Інстытуту экскурсія ў лес.

**Купальле.** Віл Аддзел Бел. Інстытуту Г. і К. ма-

ніцца зладзіць 27-га чэрвеня сьвяткаваньне „Купалы". Праектуецца экскурсія на раку. Запісвацца можна ў кнігарні „Пагоня."

Агульны Сход Беларускага Студэнскага Саюзу адбыўся 3 траўня, на якім паміж іншымі справамі адбыліся перавыбары ўраду і Рэвізыйнае Камісіі; у склад ураду ўвайшлі Б. Арэнь, як старшыня, А. Гаўрылічанка, Я. Кепель, В. Тумаш, Я. Клагіш, як сябры, і Б. Чурка і Пецюкевіч, як заступнікі; у склад Рэвізыйнай камісіі ўвайшлі—Я. Шутовіч, як старшыня, М. Скурка і П. Хвал, як сябры. На сходзе не абышлося і бяз інцыдэнту. Групка студэнтаў полёнофільскага кірунку, зложана пераважна з сяброў уступіўшага ўраду, які дастаў абсолютоўным з выгаварам за нязгодныя з ідэолёгіяй Б. С. С. пастуткі, не хацела згадзіцца з пастановай агульнага сходу і звосіла нават скаргі да куратара Саюзу праф. Владычкі; але нічога з гэтага ня вышла. Групка гэта творыць цяпер сваю асобную арганізацыю пад назовай „Скарынія."

Бацькаўскі Камітэт. 27.V с. г. адбыўся агульны сход Бацькаўскага Камітэту; выбрана новы Прэзыдыум К-ту, у склад якога увайшлі: Кс. Ад. Станкевіч, В. Багдановіч, Кароль, Падагель і Астроўскі.

Полёнафілы. Сярод полёнафілаў развал, стварылася новая група, якая хоча зрабіць канкурэнцыю полёнафільскаму „Цэнтрасаюзу." На чале новае групы паляніялаў, якая выдала ўжо дзьве аднаднёўкі пад заг. „Беларуская Праўда" і „Праўда," стаіць б. грамадавец, а потым сэкрэтар „Цэнтрасаюзу" Ф. Акінчыц.

## З Усходняй Беларусі.

„Белдзяржкіно" у Менску будуе гукавое лябораторыюм, у якім будуць накручвацца беларускія гукавыя фільмы.

Паводка. Паводка, як і ў Зах. Беларусі, была па ўсей Усходняй Беларусі, і прынясла вельмі шмат шкоды.

## З жыцьца беларусаў у Латвіі.

Новая партыя. Нядаўна паўстала новая беларуская палітычная арганізацыя, якая называецца „Беларуская Дэмократычная Партыя ў Латвіі." Партыя гэта выдала аднаднёўку п. з. „Наш Шлях" і мае выдаваць стала беларускую газэту.

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багданвіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**

Славянская выстаўка адбылася ў Рызе, на якой быў і беларускі аддзел, арганізаваны беларусамі.

Беларуская арганізацыя моладзі ў Латвіі, якая называецца „Таварыства Беларускае Моладзі" і месьціцца ў Рызе, мае свае гурткі па правінцыі, дзе ладзяцца спэктаклі і вечарыны.

Беларускі Тэатр у Латвіі ладзе час ад часу прадстаўленьні. Сойм латвійскі прызнаў гэтаму тэатру дапамогу ў суме 5.000 латаў у год. Праўда, гэта дапамога выплачываецца вельмі неакуратна, але беларусы ў Польшчы і такой ня маюць.

### З украінскага жыцьця.

„Вогні." У гэтым месяцы атрымала наша рэдакцыя № 2 за м-ц травень новую ўкраінскую часопісь для моладзі п. н. „Вогні." Часопісь гэта кірунку нацыянальнага, зьмест яе багаты і рожнародны. Рэдакцыі „Вогні" жадаем пасьпеху.

Справа пацыфікацыі ў Галіччыне мела разглядацца на вясьнянай сёлетняй сэсіі Лігі Народаў. Да разгляду аднак гэтае справы не дайшло і яна будзе разглядацца на восеньняй сэсіі.

### З Польшчы.

Зьмена ўраду. Урад палкоўніка Слаўка падаўся ў адстаўку, новы ўрад сарганізаваў палкоўнік Прыстар, які рожніцца ад старога ўраду тым, што міністрам скарбу ёсьць цяпер Ян Пілсудзкі, брат Язэпа Пілсудзкага, замест Матушэўскага, дасюлешняга міністра скарбу. Месца Прыстара, які да гэтага часу быў міністрам промыслу і таргоўлі, заняў генерал Зажыцкі. Урад палк. Прыстара нічога новага ня прыносе.

### З заграніцы.

— Паміж італьянцамі фашыстамі а Папай Рымскім штораз больш напружаюцца ўзаемныя адносіны. Фашысты яўна выступаюць супроць Папы і Каталіцкае акцыі.

— У француі 13 траўня с. г. адбыліся выбары новага прэзыдэнта рэспублікі. Выбраным аказаўся Думэр, кандыдат правых партыяў.

— У Гішпаніі неспакойна. Цяпер там, як у часе бальшавіцкае рэвалюцыі ў Расеі ў 1917 годзе, пануе бязладзьдзе, таўпа нішчыць касьцёлы, кляштары і грабіць. Паводле вестак, у Гішпаніі за апошні час спалена больш як 60 касьцёлаў і кляштараў.

— У Маскве камінтэрн абгаварвае далейшы плян працы. Паміж іншым хочуць камуністы парабіць пададдзелы Камінтэрну ў іншых дзяржавах.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.

# Усячына.

Месяц друку. 19.V.1931 г. у № 112 „Савецкая Беларусь“ падае, што з гэтага дня распачынаецца месяц друку ў С.С.Р.Р., а гэтым самым і ў Б.С.Р.Р. У гэтым месяцы маюць адбыцца ўсялякага роду зборкі, ўчасе якіх будзе весьціся агітацыя за пашырэньне савецкае прэсы. У гэтым самым нумары знаходзім весткі, паводле якіх друкуецца цяпер „Савецкае Беларусі“ 21.500 экзэмпляраў, расейскае камуністычнае газэты „Праўда“ 1.600.000 экзэмпляраў. Усіх-жа газэт у С.С.Р.Р. штодзень друкуецца 30.800.000. экзэмпляраў. Паводле-ж вестак „Сав. Беларусі“, камуністычная партыя, каторая вядзе сваю работу на беларускіх землях пад Польшчай, выдае наступныя газэты: „Бальшавік,“, „Чырвоны Сьцяг“ і „Малады Камуніст“ пабеларуску і „Do Walki“ папольску. Месца выданьня, рэчясная, газэта не падае.

У сувезі з месяцам друку для прапаганды ў Менску накручваюць беларускі фільм пад назовам „Гураган“.

30 кілямэтраў у гадзіну праляцеў амэрыканскі лятун Франк Гаукс,лятучы з Лёндыну ў Бэрлін.

372 ваенных аэрапляна ў брала ўдзел у манэўрах амэрыканскі лятуноў, якія адбываліся над Нью-Ёркам.

„Дойчлянд“. нова выбудаваны ваенны вялізарны нямецкі карабель, ужо пушчаны на ваду. Карабель гэты лічыцца адным з найлепшых на цэлым сьвеце.

Палёт праф. Пікара. 26 траўня с. г. швайцарскі вучоны праф. бэльгійскага ўнівэрсытэту ў Бруксэлі, Пікар у нямецкім месцэ Аугсбургу на спэцыяльна збудаваным апараце ўзьляцеў на вышыню 16 кілямэтраў. Трымаўся ён там 17 гадзін і шчасьліва спусьціўся ў Альпейскіх горах. Палёт гэты ёсьць вельмі важны, бо спасьцярогі зробленыя ўчасе яго прычыняцца да пазнаньня таго месца ў прасторы, дзе яшчэ ніхто з людзей і ніколі ня быў.

Зьгінула 35 асоб. Нядаўна на Балтыцкім моры затанула бальшавіцкая падводная лодка „Таваріш“, а разам з ёй 35 асоб, якія знаходзіліся ў ёй.

Паводка. Сёлетняя вясняная паводка ў Віленшчыне паводле афіцыяльных падлічэньняў нарабіла стратаў ды шкодаў на 4 мільёны з чвэрцяй злотых.

Найбольш пацярпелі Дзісьненскі і Браслаўскі паветы, дзе страты аблічаны на 2 мільёны зл. У Вільні стратаў на 900 000 зл. у Сьвянцянскім пав. — стратаў на 250.000 зл., у Віленска-Троцкім — на 210.000 зл., у Маладэчанскім пав. — на 200.000 зл, у Ашмянскім — на 106.000 зл.

# Наша Пошта.

Лісьціку. За прысланае дзякуем, як бачыце, верш Ваш друкуем, з рэшты матарыялаў па магчымасьці будзем карыстаць. Пішыце болей.

М. Нядолі. Верш Ваш вялікодны добры, але спозьнены, зьмесцім яго ў наступным годзе.

І. Сулеўскаму. За прысланае шчыра дзякуем, выкарыстаем. Прэмію два календары „Шл. Моладзі“ Вам высылаем.

І. П-ну. За ўвагі дзякуем, з апавяданьня, на жаль, ня можам скарыстаць, слаба апрацаванае.

Таму самаму. Карэспандэнцыю, як бачыце, зьмяшчаем. Рукапісаў, прысланых да друку ў Рэдакцыю, не зьвяртаем. Просім аб гэтым не забывацца.

Задуме. Вершы Вашых маладых паэтаў у наступных нумарох будзем зьмяшчаць.

Грошы атрымалі ад: пасла Ф. Ярэміча 20 зл., Вальткрыета Ямалаковскай А. па 2 зл., Савіцкага К., Тарасэвіча М. па 1. зл. Усім шчыра дзякуе, „Шлях Моладзі“ пасылаем.